АЛЕСЬ ЕМЯЛЬЯНАЎ НАРАДЗІЎСЯ
Ў 1952 ГОДЗЕ
Ў ВЁСЦЫ ЗАБАЛАЦЦЕ ЧАВУСКАГА РАЁНА
НА МАГІЛЁЎШЧЫНЕ.
ПАСЛЯ ДЗЕСЯЦІГОДКІ ДВА ГАДЫ ЗАЙМАЎСЯ
Ў ГОРАЦКАЙ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЙ АКАДЭМІІ,
ПРАЦАВАЎ КАРЭСПАНДЭНТАМ
РАЁННАЙ ГАЗЕТЫ «ІСКРА».
СЛУЖЫЎ У ПАГРАНВОЙСКАХ.
ПАСЛЯ АРМІІ ПРАЦАВАЎ ЭЛЕКТРЫКАМ
У МІНСКУ.
ЦЯПЕР АЛЕСЬ ЕМЯЛЬЯНАЎ —
СТУДЭНТ ФІЛАЛАГІЧНАГА ФАКУЛЬТЭТА
БЕЛДЗЯРЖУНІВЕРСІТЭТА ІМЯ У. І. ЛЕНІНА.
ПЕРШЫ ВЕРШ НАДРУКАВАНЫ
Ў 1968 ГОДЗЕ
Ў ЧАСОПІСЕ «БЯРОЗКА».

ПЕРШАЯ КНІГА ПАЭТА

Алесь
Емяльянаў

# РАНАК ПОЎНІЦЦА ЖЫЦЦЁМ

**Вершы і паэмы**

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1977

* * *

Нібы аблокі ўпалі на зямлю
І табуняцца каля кожнай хаты —
Сады цвітуць.
Пластуе плуг раллю,
І ўжо ў сяўню засыпаны зярняты...

Сады, ралля і сонца над сяўнёй —
Бязвусы май працуе на ўмалоты.
Я малады,
Як май,
Іду сваёй вясной,
Як і яго,
І мой аб ніве клопат.

2 Зак. 3781

## МОВА

Мова,
Табе я ніколі не здрадзіў,
Прад табою душой не крывіў.
Мова —
Сонца маё і радасць,
Ты — чырвоны агонь крыві.

Ты прайшла праз ліхія завеі,
Праз залевы ганенняў, зняваг
Не пястухай,
Не казачнай феяй,
А паўстанкай
З касою ў руках.

Твой душою я ўвесь,
Маці-мова,
Без цябе мне жыцця нестае.
Дай руку мне,
Пяшчотнае слова
Беларускае мовы мае.

## БЕЛАРУСІ

Хоць да мора выхаду не маеш,
Морам з небывалаю красой
Два разы на год сама бываеш,
Ходзяць хвалі, шумна б'е прыбой.

Першы раз — як рэчкі разальюцца,
Затапіўшы кладкі і масты.
Ёсць прастора водам разгарнуцца,
Астраўкамі плаваюць кусты.

І куды ні глянь — усё заліта,
Пад вадой схаваліся лугі...
Ані краю, ні канца блакіту,
Дзе знайсці пачатак, берагі?

А як жыта ў полі паспявае,
Зернем звоніць сонца каласоў,
То другі раз морам ты бываеш,
Б'юцца хвалі ў стромы берагоў.

* * *

Зямлі я роднай прыгаршчы трымаю,
І сэрца ўсхвалявана б'ецца:
Вось ён —
Кавалак цеплыні,
Пяшчоты,
Дабраты.
Нічога даражэй няма —
Любоў сваю
Я на руцэ трымаю...

## РЭЧКА БАСЯ

Ціха, паволі,
Між дрэў задуменных,
Між траў,
Хмызнякамі павітая,
Цячэш шмат гадоў,
Мая Бася.

Лось выйдзе з-пад шатаў
Зялёнага лесу,
Пысу памоча,
Пап'е.
Жаўрук раніцою
Над чыстым струменнем
Сваімі
званочкамі
дзынкне.

У вечар вясновы
Дзяўчаты прыходзяць,—
Ты пругкія хвалі напоіш
Песняй кахання
Мяцельнага мая,
Далей панясеш іх да Проні...

Бася —
Рачулка не надта вялікая,
Ды толькі забыць
Пра цябе не змагу,

Бо ўвесну з берага
Хваля крутая
След мой змыла...
Змывае...

* * *

Дрэва,
На дол ці на сэрца маё ты ўпала?
Ные,
Баліць яно так,
Як ніколі,
Быццам пудовы камень-навалу
Ўзвалілі
Ці рану
Пасыпалі соллю...
Чаму?
Я ж бачыў,
Як падалі дрэвы другія,
А потым гарэлі паленні тугія,
Стыў прысак,
Апошнім гарачым дыханнем
Дзяліўся з людзьмі
Да сівога світання...

Прабіўся ўспамін праз пласты маіх думак:
Маленства галінамі дрэва спавіта,
Шчабеча,
Смяецца гарэзна,
бяздумна
І кідае выклік суседу-блакіту...

* * *

Мая душа,
Як лес з грыбамі,
Паляна ягад,
Ціш начэй.
Заўжды
Расчынена настрэчу —
Заходзь і ўвечары,
І ўдзень.
Я ад дабра твайго
Дабрэю,
Я ад цяпла твайго
Цяплею,
Не праміні
Дзвярэй маіх...
З сабою радасць панясеш
І мне кавалачак пакінеш...

* * *

Ручнік зараніцы ўсчапілі на рогі,
Каровы ўладарна ідуць між двароў.
— Гэй, хто стаіць, саступіце з дарогі!
Вёска мая сустракае кароў.

Выйшла на ганак з даёнкай матуля,
Бацька прыціх над касой з малатком.
Ступае павольна красуня Красуля,
Прапахлая сонцам і малаком.

## ХЛЕБ

Калі ў зямлі ўжо сілы нестае
Шматтонне збажыны трымаць на ўлонні,
Ёй на падмогу чалавек ідзе,
Лажыцца зерне
Хлебам
На далоні.

Знясіленае поле уздыхне,
Як парадзіха,
Ўчуўшы крык дзіцяткі.
Камбайнер загарэлы
Пот сатрэ
І робу здыме,
Як урач пальчаткі.

Духмяны хлеб спавіты ручніком,
Матуля над сталом,
Як над калыскай,
Сусед загляне,
Вып'е за ўмалот,
За дзень вясны далёкай
Блізкі...

* * *

Ранак росны галасуе
Жаўруковай стрункай неба.
Адкладаю ўбок касу я:
Адпачыць мне крыху трэба.
Адпачыў.
Ізноў рухомы.
І шырэй вяду пракосы.
Не, цяпер не хутка стома,
Сіл у целе больш, чым досыць.
А жаўрук —
Пад неба вільчак,
Раніцу вітае песняй.
Ой, дзівак, дарэмна клічаш
Ад лугоў у паднябессе.

* * *

Праменні сонца зазірнулі
Ў люстэрка плуга.
І вось
Плыве па полі плуг.
Зямля ўзараная ў смузе
Увачавідкі ажывае,
І хутка пырснуць
Парасткі з зярнят,
Каб неба ўзняць
Вышэй на дзідах.

## ПЕРАМОГА

Апошні стрэл
За Перамогу.
— Дамоў, дамоў! —
Гулі дарогі...

Ад палыну згарчэла поле,
Гарчэй, чым кроплі першака,
Нясло асколкі
У прыполе,
Акопаў шрамы на шчаках.

Не хлеб ды соль,
Не лусты ворыва —
Салдаткі боль
Ды прысмак пораху.

Плуг скрыгатаў як апантаны,
Як цуглямі конь-ламавік,
Яшчэ крывавіліся раны,
Бінты не скінуў франтавік.

Салдат ішоў,
Ішоў араты.
Баразнаў шво,
Як бінт на ранах.

* * *

Без стомы маці жала,
Спрытна.
Зіхцела сонца на сярпе,
Схіляўся цяжка колас жытні,
І час пагодны не цярпеў.

Хлапчук малы ў іржышчы бегаў,
Лавіў вачыма жаўрука...
Я й сёння бачу
Дзён тых бераг,
Хоць з кожным днём шырэй рака...

* * *

Мне аб паэзіі
Штодзённа,
Штогадзінна
Напамінае матчына рука:
У прозе дня,
Прасоленага потам,
Куецца гулка
Слова для радка.

## СЕРП

Сярпа паўкруг
Я ўгледзеў пад страхой.
Маленства маміна
Ён падпіраў акрайцам хлеба,
Ён маладосць яе
Рупліва абвіваў,
А сёння ён
Падковай
Пад страхою.

## БАЦЬКА

Сцяжынка ў палісаднік са двара
Забегла.
Грукае ў акно.
Па ёй бяда аднавяскоўцаў
Сюды спяшае за надзеяй.
І заўжды,
Як толькі шыба
Пад рукой
Адчайна зазвініць,
Абуе боты бацька
І ватоўку ірване з крука,
Бо зноў бяда парушыла граніцы,
Хвароба дыверсантам падпаўзла...
Мой бацька —
фельчар.
Хоць даўно
Ён зняў шынель вайсковы,
Але
Амаль штоноч
Сны абрываюцца яго
Трывогай...

3 Зак. 3781

## УСМЕШКА ДЗЯЎЧЫНЫ

Яна ўвайшла
Ў сузор'е дзён маіх,
Дазволу не спытала,
І не заўважыў сам,
Калі
Жыцця майго
Працягам стала...

## НАДЗЕЯ

Колькі у чаканні
Праплыло гадзін?!
Адвячоркам зорным —
Пад вярбой адзін.

Думаецца-верыцца:
Прыйдзе па ваду.
Набяруся смеласці —
Падыду...

Маладзік купаецца
З хмаркай у вадзе.
Зноў і зноў гукаю я:
— Дзе ж ты,
Дзе?..

* * *

Я Яе за руку трымаў.
Божа мой,
Гэта сон ці ява?..

Дзень у парку знямогла драмаў,
Ад дажджу
І ад поту п'яны.
Дзень драмаў,
А вечар-шальмец
Падыходзіў крадком,
Дражніўся,
То ад хмар пачынаў цямнець,
То зноў белым,
Як дзень, рабіўся.
Ліхтары то мігцелі, то не,
Нам падміргвалі нібыта разам.
І няўцям было, ведама, мне,
Што службовы
У іх абавязак.
І, увогуле,
Шчыра сказаць,
Не да іх мне было,
Вядома.
Я трамвай бы пачаў цалаваць,
Каб не вёз ён Яе дадому.
Я ад шчасця крутога хмялеў,
Я ад шчасця быў п'яны, п'яны...
Я трымаў за руку Яе.
Божа мой,
Ды няўжо гэта ява?

* * *

Адцвілі дажджы на небе,
І сняжынкі-кветкі
Ў танцы сыплюцца на глебу
Пад спяванне ветру.

Паглядзіш — і сам, здаецца,
Ў танцы завіруеш.
Ой, дзяўчына усміхнецца,
Хлопца пацалуе.

Дык ляці ж з дзявочым смехам,
Снег, каб марыць змог я,
Каб у марах белым снегам
Перад Ёю лёг я!

* * *

Прабачце, зоркі,
Голаў —
Долу,
Іду-брыду я
Сам не свой,
А на душы —
То люты холад,
То горкі сум расстання з Ёй...

* * *

Ізноў адзін я.
Ізноў туга сівая
Звіла гняздо
Ў галінах дзён маіх,
А сэрца
З наіўнасцю дзіцячай
Параніцца спатканнем
Прагне зноў...

* * *

Яшчэ мой сум
Блукае па палях,
Яшчэ мой смех
Ліецца між сасонак,
А ўжо стаіць шарэнга ў шынялях,
Маё юнацтва
Крочыць у пагонах.
— Уперад! —
Чуецца загад.
Бягу я
На рубеж агню,
Цяжкі ўздымаю аўтамат,
Гляджу ў лясную цішыню.
І прад вачыма
Сосны бачу я,
Між трох старых —
Равесніца мая...
— Агонь!
Між дрэў
Мішэнь салдата.
Не падвядзі, рука...
Чарга,
Яшчэ чарга...
— Выдатна!

...А сёння
Строй застыў вайскова,
Ў руках сціскаю аўтамат.
Ужо не хлопец я вясковы,
Ужо — салдат.

Ужо салдат.
І толькі маці
Па звычцы матчынай сваёй
Напіша:
«Мілае дзіцяці,
Хлапчынка мой...»

Даруй,
Не толькі твой я, маці,
Ўжо шляхам сталасці іду,
Я ўжо ў адказнасці за шчасце
І за бяду.
Не падвяду!

## КАНЦЭРТ НА ЗАСТАВЕ

Хлопцы хто як
На траве ўладкаваліся.
Жніўня ружовая раніца.
Пляц страявы
Сёння служыць нам сцэнай,
Вецце бяроз —
Дэкарацыяй.
Скрыпкі настроены,
Ноты раскрыты,
Хлопец кранае тугую струну.
З пальцамі разам
Сонца па гузіках
Скокнула ўвішна,
Баян уздыхнуў.
Без мікрафонаў,
Дынамікаў гулкіх,
Песня, лунай,
Увесь свет ахапі!
Песню бярозы галінамі гушкалі,
Дол кожнай кветкай
Мелодыю піў...
Здаецца,
Не вырвацца з цёплых абдымкаў,
Слухаць і слухаць бы
Песню лугоў...
Толькі з травы
Уздымаецца хлопец —
Сцежка дазорная
Кліча яго.

## ЧАЛАВЕК І АГОНЬ

(гартаючы падручнік па гісторыі)

Вуркоча ў вантробе зямной Агонь,
Лавай вулкана пне на паверхню.
Бяжыць Чалавек
Ад Агню, ого!
Ляціць, як у полі вецер.

Грымнуў з кудлатае хмары гром,
Маланкамі дрэва ліжа,
Ізноў Чалавека
Гоніць Агонь,
Як зграя сабак
Апантанага ліса.

Бяжыць Чалавек,
І ўжо сіл нестае,
Вось лопнуць, здаецца, нервы.
Падумаў Ён:
«А хто ж мацней —
Я
Ці Агонь пякельны?»

Падкраўся бліжэй
І рукою — цап.
Апёкся,
Завыў, заенчыў.
Ды адступіць,
Павярнуць назад
Не мог Чалавек упарты.

Рашыўся ізноў.
На гэты раз
Доўга глядзеў і думаў...
І вось Ён Агонь трымае ў руках,
Як я казырнога туза.

— Ура! Пакарыў!..
І пайшоў праз вякі
Агонь абратаны на повадзе...
Глядзі,
Чалавек,
Каб Агонь свяціў
Ды цуглі з зубоў
Не выкінуў.

* * *

Шоргат колаў,
Асфальт аж упрэў,
Сонца пражыць
Паяльнай лямпай —
Горача.
Вырвацца б,
Вылузнуцца хутчэй
З каменнай вопраткі горада.

А ў вантробе аўтобуса
Ціск такі,
Акно аж дрыжыць мембранай.
Дзе там яблык?!
Гарошыну дробную кінь —
Не упадзе
Ні злева, ні справа...

Дзень дагарэў,
І асфальт астыў,
Аўтобус знямеў на прыколе
Недзе ў горадзе.
Я ж ля ракі
У вогнішча кідаю голле.

Плёснуў шчупак,
Вудзільна сагнуў,
Хвалі разрэзаў вугольнікам...

Я выпіў цягучую юшку нагбом
І прыкурыў ад вугольчыка.

Бухнуўся долу
Тварам да зор,
Ляжу,
А думкі ўсё муляцца,
І бачу:
Не зоркі над галавой —
Вісяць ліхтары над вуліцай...

## ВЯСНА

Горад жыве
Зменай другой.
Сонца над дахамі —
Рыжым лісам.
Машыны равуць,
Як зубры вясной,
Бы за дзень шчэ
Не нараўліся.
А побач,
чувацъ,
Метал лязгоча,
Вухкае молат цяжка.
Дымяць каміны —
Завод-рабочы
Робіць глыбей зацяжкі.
Людзі спяшаюцца
Хто
куды,
У кожнага
Спраў па вушы...
І раптам
У тлуме такім
Малады
Шпак з голай галіны
Аглушыць.
Стары ў галіфэ,
капелюшы
Спыніўся,
Плячыма пацісну ў:

— Тутакі шпак,
Ну ты скажы.
Здзіўлены
Аж прысвіснуў.
Стаіць.
Ва ўсе вочы глядзіць,
А шпак,
Нібыта вакол
Ні машын,
Ні народу,
Нібыта не дымам
Горад прапах —
Вядзе пра свае прыгоды.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Снег іскрыцца не ў полі —
У асфальту ляжыць на плячах.
Белы,
Белы да болю,
Да чарнаты у вачах.

Праз вокны
Глядзіцца ў кватэры,
І поўняцца душы цяплом.
Памножана эНтэЭРА
На белай зімы святло.

Машыны паўзуць марудна,
Бы здрадзілі белізне.
Дворнік у шапцы рудай
Лапатай не кідае снег.

Стаіць.
У вачах задуменнасць,
Пад вусам —
Усмешкі след.
«Якая за ноч перамена!» —
Узрушана шэпча дзед.

Грукнулі дзверы.
Кулем
Хлопец ляціць у снег.
Яму ўсё роўна —

Матуля
Будзе сварыцца ці не...

Белы,
Белы да болю,
Да чарнаты у вачах
Снег іскрыцца не ў полі —
У асфальту ляжыць на плячах.

## ЗАВІРУХА

Снег кладзецца пад трамваі,
Тратуар снег укрывае...
Раптам чую подых мая —
Крочыць змена завадская.
Гоман, смех
Нясе дамоў...
Пацяплеў, здаецца, вечар,
І прыціх шалёны вецер.
І не снег халодны скрухай,
А пялёсткаў завіруха —
Ў промнях жоўтых ліхтароў.

## ВЯРТАННЕ ЗІМЫ

Ляціць дэсант сняжынак на дамы,
І рукі ліжа,
                студзіць подых ветру —
Апошні бой
Мінулае зімы,
Зламаныя
                звіняць ільдзінкі-кветкі.

Яшчэ уздых ці два,
І ўсё міне,
І промні зноў сыпнуць,
Як зерні з луба,
Зноў усміхнуцца радасна вясне
І сэрца,
          і душа,
                    і вочы любай.

* * *

Вочы —
Блакітныя поўні
Неба і сонца поўніць.
Стаю на вятрыстым балконе,
Як шпак
На вейцы шпакоўні.
Вецер не свежы —
З пахам
Дымка ад машын і завода...
Кінуцца б хуткім птахам,
Нырнуць з галавой у прыроду,
Сп'янець,
звар'яцець у сіні,
У зеляніне дрэва.
Пачуць,
Як у далях стыне
Рэха
зубрынага
рэву.
Убачыць,
Як пудзяцца коні,
Над хваляй
Пялёсткі чаек...

Сусед са свайго балкона
Мяне завітаць гукае.

«Брат перабраўся ў горад.
Вып'ем з такой нагоды».

* * *

Іду я смела між гадоў
І не баюся спатыкнуцца...
Дубы ж растуць з тых жалудоў,
Што аб зямлю ілбамі б'юцца.

## ПРАЗ ГАДЫ

(п а э м а)

### I

Я праз гады
Імчу ў той час,
Калі Іваны,
Мар'і нашы
Сваім жыццём
Жыццё для нас
У смерці бралі ў рукапашнай.
Яны на «ты»
Былі з вайной,
Яны на «ты»
Былі са смерцю
І падалі,
Ўставалі зноў
І безыменна йшлі ў бяссмерце.

*

Яшчэ ў здзіўленні
Шар зямны:
Адкуль знайшлося столькі сілы?
А бой смяротны той
Яны
На ўласных выцягнулі жылах.
Заўжды на сілу
Сіла ёсць,
А калі сілы неставала,
Кіпела над бяссіллем злосць,
Ішла на вал
Дзевятым валам.

II

Купэ.
Нас двое —
Я і ён,
Вясковы дзядзька.
Па-суседску не толькі едзем,
А й жывём,
Як кажуць,
З аднаго узлеску.
Завуць усе яго Сямён,
А я па звычцы —
Проста дзядзька.
Яднае нас сяброўства з дзён,
Як да яго хадзіў гуляць я.

*

Я вырас.
Час узяў сваё.
Не часта ў вёску прыязджаю.
Гляджу —
Другі хлапчук маё
Ля дзядзькі месца ўжо займае.
І сумна мне:
Шкада тых дзён,
Як бег па казкі
Да суседа.
Цякуць гады,
Старэе ён,
Заве мой сын яго ўжо дзедам...

*

У ноч нясе састаў агні,
І Беларусь мая з узлескаў

Вітае, шчырая, цягнік,
Як жаніха свайго нявеста.
Спусціўся месяц на зямлю,
Апалі долу зернем зоркі.
Так відна —
Кожны куст лаўлю
Я вокам пільным,
Вокам зоркім.
Свой беларускі краявід,
Здаецца,
Ведаю да кветкі,
Да кроплі той,
Што ўпала ў вір,
Да кожнай хмаркі над палеткам.

*

Прыціхла роўнядзь збажыны,
І луг калючы спачывае,
А далей —
Вёсцы сняцца сны:
Камбайн у поле выплывае,
І бохан круглы
Лёг на стол
(Сын вёскі сам —
Таму сцвярджаю).
Аб цёплым хлебе сніцца сон
І цёплы сон аб ураджаі.
А далей —
Горад.
Ён, як я,
Не спіць у гэту ноч,
Вядома,—
Збірае трактар,
Каб зямля

Адчула ўвесну
Плуга стому.

*

Ноч навакол.
Ці спіць, ці не
Мой край?
Ніяк не разбяруся.
Прыціхла поле.
У акне —
Агні,
        агні па Беларусі.
Сны вёскі —
Бохан на стале.
Грукочуць колы пад вагонам...
Сіл разабрацца нестае —
Маўчанне луга,
Думак гоман...
Знайшоў бы можа я адказ,
Ці спіць, ці не
Мой родны краю?
Ды праваднік зайшоў да нас,
Прапанаваў дрымотна чаю.

III

Трымціць над шклянкаю парок,
Я грэюся гарачым чаем.
У сшытак просіцца радок...
Ды думкі вокліч супыняе
На паўшляху:
— Няўжо Сямён?!.
Блішчыць слязою нечаканасць,
І абдымае дзядзьку ён,
Былога сябра-партызана.

*

Б'юць успаміны ў берагі,
А я —
Не я:
Увесь у слыху,
Бы чую сэрца стук глухі,
Як ля «жалезкі»
Хлопец дыхаў.
І ясна бачу тую ноч,
Такую ж белую,
Як сёння,
Блішчыць раса,
І стыне нож,
Што халадзіць руку Сямёну.
Стаіць ля моста вартаўнік,
Далей яшчэ...
Не падступіцца,
А ўжо грыміць,
Вязе цягнік
На фронт гарматы,
Сталь іскрыцца...
Хвіліна,
        стоп!
Даруй,
        жыццё,
Няма на роздум
                ні імгнення...
Рывок...
        бязважкасць...
                небыццё...
На свет другое нараджэнне...

*

Нам сёння лёгка разважаць:
Вайна...

І смерць...
І бессмяротнасць...
За вокнамі імжыць імжа,
Святло ж утульнае у вокнах.
Здаецца проста ўсё для нас:
Плуг кінуць іржавець пад плотам,
Касу,
Што накляпаў якраз,
Жыты,
Напоеныя потам.

*

Упэўнен —
Не адзін юнак,
Пачуўшы дзядзькавы ўспаміны,
Падумае:
«А як інакш?
Так кожны з нас рабіць павінен».

*

Хай і злуюць
Бацькі падчас,
Што джынсы выцертыя носім,
Што грывы доўгія у нас,
А мы ж —
Вясна,
А мы ж —
Не восень.
Існуе мода для каго,
Калі не для хлапцоў, дзяўчатак.
Але ў сучасніка майго
Ёсць і другі яшчэ пачатак.
Я чую БАМа галасы,
КамАЗ — юнак яшчэ бязвусы,

І Лаўсанбуда карпусы
Падпёрлі неба Беларусі.

Увечар —
Модныя штаны.
Спецвопратка
Чакае ўранак.
Хай мы сягоння «пацаны»,
Ды заўтра будзем —
Ветэраны.

*

Нам кажуць:
— Трэба...
Кажам:
— Ёсць!
Не пашкадуем сіл юначых,
З нас кожны на зямлі
Не госць,
Хоць гаспадарым мы
Іначай.
А паглядзіце лепш,
Глыбей,
З якіх зярнят
Мы прарастаем,
І не адзін стары сябе
У нас,
У моладзі,
Пазна́е.

*

Маўчым мы.
Чай даўно астыў.
І роздум сінім дымам стыне,

А думак хісткія масты
Нясуць праз час
Каго куды нас.
Мяне
Юначы роздум мой
То ў дні апаленыя кіне,
То ў сёння бухне з галавой,
То бачу:
«Заўтра» ў далях сініх.
Ды тут не пра мяне расказ,
Прабач, чытач, за адступленні,
Стрымацца не магу падчас,
Каб не сказаць за пакаленне
Грывастых модных юнакоў
І кволых з выгляду дзяўчатак,
Што смела з рук бярэ бацькоў
Штурвал,
Каб кіраваць
Дваццатым.
Бярэ іх боль,
І памяць іх,
Падзенні,
Смелыя уздымы,
Каб, час адсунуўшы, бацькі
Сябе адчулі маладымі,
Каб чулі мірнае:
З галля
У жніўні бухаюць ранеты,
Каб заўтра іх не сцерагла
Няўпэўненасць
За лёс планеты.

*

Прыпынак.
Праваднік устаў:

Састаў чакаць нас тут не стане,
Бо што ж яму да нашых спраў,
Да нашага ў вайну вяртання?
Грукоча ён у рытме дня,
Жыццё ляціць,
І ён спяшае
З ім поплеч,
Як спяшаю я,
Каб не адстаць,
Каб быць не з краю.
Але,
Хоць і падобны мы —
Ён у дарозе,
Я ў дарозе,
Гартаць мінулага тамы,
Чытаць удумліва,
Цвяроза
Штодзённа абавязан я,
Занятак набліжае гэты
Мяне да заўтрашняга дня.
Я — чалавек,
Я — дзень планеты...

*

Поўнач.
Спаць кладзецца дзядзька.
— На, расшпілі мне гузік,
Браце,
Эх, столькі год,
А я ніяк
Не навучуся гэтай справе...
І глянуў на два пальцы правай...
— Траву лягчэй касіць у лузе,
Чым расшпіліць вось гэты гузік...
Ён уздыхнуў.

І час далёкі
Зноў успамінамі
У наступ
На памяць дзядзькаву пайшоў...
Ізноў гучыць загад:
— Уперад!
Гарыць варожы гарнізон...
Ізноў
Вайна лютуе зверам...
Ледзь-ледзь гайдаецца вагон...

*

Пасцель паслаў,
Ды спаць не будзе
Сямён,
Яму не да таго:
Стук колаў успаміны будзіць,
Другі цягнік,
Другі вагон...

*

Год сорак пяты.
Перамога.
У родны край
Вядзе дарога.
Вяртанне з небыцця ў жыццё,
Нібы другое нараджэнне,
Другое свету адкрыццё.
З Радзімай блізкае спатканне.
Тук-тук —
І ўжо бліжэй,
бліжэй...
І сэрца стук:

Хутчэй,
хутчэй!
— Адзін,
другі...
Чацвёрты,
пяты...—
Зноў дзядзька
Стыкі рэек лічыць.
Як стык —
Далей,
Як стык —
Бліжэй,
Далей нябыт,
Бліжэй Радзіма...

*

Радзіма.
Што ёсць даражэй?!
Ёсць шчасце,
Прага да жыцця,
І ёсць свяцейшае —
Радзіма.
Яна для кожнага свая,
Яна для кожнага адзіна.
Радзіма —
Гэта сцежка ў луг
І месяц на двaіх
Рагаты,
Адшліфаваны глебай плуг,
Крыло страхі над роднай хатай.

IV

Ледзь сонца пырснула ў лісцё,
На верхавіны дрэў дрымотных,

І ранак
Поўніцца жыццём,
Дзе смерць гуляла бестурботна,
Дзе груша-дзічка тры вясны
Ад ран глыбокіх памірала,
А ўсё-ткі выжыла.
Ды сны
Жывуць у памяці трывала,
Хаця даўно ўжо час злізаў
Узвышшы попелу з падворкаў,
Хаця ўначы блішчыць раса
На жытнім коласе пад зоркай.

*

Пяшчотна дзядзька гладзіць ствол,
Шурпаты ствол
Калекі-грушы,
Упала горкая на дол
Сляза...
А сонца,
Сонца сушыць
Расу на зерні маладым
І слёзы,
Зазірае ў вочы,
Бы чэпкіх успамінаў дым
Навекі адагнаць з іх хоча.

*

Хоць цяжка роспач мне стрымаць,
Але ж і плакаць не да твару.
У сэрцах памяць не дарма
Жыве аб тых начных пажарах.
Нясём мы памяць праз гады,
Бяром яе з сабою ў космас,

Мы з ёй будуем гарады
І крочым ліпеньскім пракосам...

V

Ужо над лесам залаты
Узняўся дыск,
Ліецца чырвань.
Дзень новы
Хлопцам маладым
Ужо ўсміхаецца нам шчыра,
Ужо і робу напрануў,
Памыўшы твар расою колкай...
Камбайна рокат скалануў
Абшар маўклівы,
Ранак золкі.
Паўзе ад раніцы далей
Густы туман мядзведзем белым...
І ў дзядзькі вочы весялей
Глядзяць на грушу,
Колас спелы.
Ён рушыў напрасткі туды,
Дзе аглушылі гулам ранак
Машыны.
Спелыя жыты
Паклоны б'юць да ветэрана.

*

Ідзе камбайн.
Другі за ім,
І трэці ў каласоў разліве,
А там чацвёрты...
— Справа ў чым?
Чаму стаіць камбайн маўклівы? —
Спытаўся я,

А мне ў адказ:
— Іван —
камбайнер наш —
на ранку
Не змог падняцца:
Зноў праз час
Адкрылася старая рана...
І дзядзька глянуў на мяне:
— Давай, хлапец,
Ты ж, знаю, можаш.
Не падвядзеш?
— Не, дзядзька, не...
Сыпнула ў бункер
Сонцам збожжа...

## ПАЭМА ВЯРТАННЯ

I

Не ўспамінаю:
Успамін — часовасць!
Памятаю,
Дыхаю,
Жыву я словам —
«Забалацце» —
Для мяне
Свяцейшым словам.
Гэта мая
Першааснова —
Забалацце,
Не буду ў любові клясціся,
Ані ў веры.
Забалацце —
Маё сэрца
і нервы.

*

«Уставай...
Час у поле кароў выганяць»,—
Маці шэптам
(Баіцца спалохаць)
Гаворыць.
А над стрэхамі
Неба шчэ ў зорах,
А певень яшчэ на шастку,
А так хочацца спаць
Пастушку...

«Ну яшчэ хоць хвіліначку,
Мама,
Хоць хвіліну...»

Досвітак
Водсветам сінім
У вочы блакітныя хлынуў...

Не хочацца піць сырадою,
Ні бульбы есці тае...
Хлеб і сала з сабою
Маці хлапчыне дае...
Нічога не трэба даваць:
Яму б крыху паспаць.
«Пайшла, худоба!
Аць!»
Спаць,
спаць,
спаць...
Пуга цягнецца ўслед вужакай,
Цяжка падняць.
...спаць,
спаць.
Птушкі яшчэ маўчаць.
...спаць.

*

Маці доўга глядзіць услед,
Як хлопчык
цягнецца
ледзь.
Маці глядзіць,
Як ён
на нагах
спіць.

Сама б
пагнала худобу,
Сама б
адбыла радоўку.
Грукае сэрца.
Нядобра.
Ды ў калгасе
Сенанарыхтоўка.

*

Сум грудзі сціскае туга:
Кароў
не гнаць
пастушком.
Калі выпадзе ўзяцца за пугу,
Звацца буду ўжо
Пастухом.
І ніколі,
Ніколі болей,
Ні на момант,
Што тут казаць,
Не захочацца так,
Да болю
...спаць.

*

Я маю прапіску
Даўно не вясковую,
Асфальту падэшвамі
Плачу зарплату,
Нашу я гальштук,
Кашулю шыкоўную,
А ўсё здаецца:
Штаны залатаны.

II

Я гараджанін,
Як ёсць,
Не пазнаць,
Што выйшаў з вёскі.
Дый хоць пра горад
Пачну спяваць —
У словах
Забалацця майго
Адгалоскі.

*

Верасень, верасень.
Сёмы мой верасень —
Жоўтыя лапікі
Па зеляніне.
Яму,
як сябру найлепшаму,
Верыў я:
Залатанае ж
І ў яго калашынне.
Я верыў верасню.
Як я верыў!
Амаль што сем
Мне было.
Быў буквар,
І крэмзаў нешта
Ужо на паперы,
Глядзеў з надзеяй
Навуцы ў твар.
...Не прынялі.
Якая здрада!
Сказалі:
Не сем, а шэсць з хвастом...

«Згарыць ён хай полымем —
Гэткі парадак»,—
Тры дні
Без спыну
Я выў ваўком.
Маці ўгаворвала.
Яе не слухаў.
Бацька дзягаю
Перастаць прымушаў.
Ды ўсё адно
Выў я глуха,
Бо не азадак балеў —
Душа.

*

Верасень,
                    верасень,
Сёмы мой верасень.
Крадком ад маці,
Ад бацькі крадком —
Буквар за пазуху,
Аловак з паперaю —
І басанож
У школу бягом.
Пад парту забіўся,
Дрыжу,
                упарты,
Нібы вялікі свавольнік які.
Ды са смехам
Мяне з-пад парты
З гвалтам выцяглі
Мае ж сябрукі:
«Ха-ха,
Хі-хі!
Захацеў малеча

З намі у школу хадзіць.
Эй, не!
Сядзі лепш з кошкай
На цёплай печы...»

...Ды зразумеў
Настаўнік мяне.

*

Табе недарэмна
Я верыў, верасень.
Найлепшым сябрам
І сёння лічу.
Мой сёмы верасень,
Ты не вернешся,
А я зноў і зноў
Да цябе імчу.

III

Вятры і зімы,
Пыл дарожны.
Вялі па свеце
Мяне гады.
І быў бы
Без Забалацця
Я парожні,
Як слоік ў спёку
Без кроплі вады.

*

«Давайце,
цёткі,
Яшчэ хоць паўкопкі.

Большы за ўсіх
Я воз нагружу...
Што?..
Абярнуся?!.
Не бойся,
цётка!
Было б пад сілу
Толькі гужу!»

Сонца спіну,
Патыліцу пражыць.
Сена прыціснуў
Мацней жыватом.
Дарога за возам
Ніткаю пражы
Кладзецца,
Цягнецца ўслед
Хвастом.
Вербы галінамі
Воз абскубаюць,
Нібы ласіхі
Зімою стог.
Конь заіржаў,
Зашлёпаў грыбамі,
Строс
З грывы кудлатае
Пыл дарог.
А я смяюся,
А мне
Нічога,
Бруду ў вушах —
Хоць рэпу сей.
Ніткаю пражы
Кладзецца дарога,
Віецца дарога
Дзіцячых надзей...

*

Воз пагойдваецца
Кудлатай хмарай.
З сонцам размову вяду
На «ты».
І так захапіўся,
Так зама́рыўся,
Што не заўважыў
Адхон круты.
У-у-у-х!
Лячу на ўлонне дарогі,
Завалены сенам
У пыле ляжу.
А пад неба
Ўзлятае рогат:
«Было б пад сілу
Толькі гужу!..»
«Хлопцы,
А можа здуру заснуў ён?!.»
«Алеська,
А ці жывы ты,
Ці не?!.»
І тыя,
Што некалі
З-пад парты цягнулі,
Гвалтам з-пад сена
Цягнуць мяне...

*

Вечар.
Па небу зоркі-парэчкі
Мядзведзіца рупна
Збірае ў кош.
Загналі коней на луг да рэчкі,

Па росах колкіх
Ідзём басанож.
«А можа злазіць
У сад па дулі
Да дзядзькі Вусціна?
Гайда,
        сябрукі!»
«Лепш з маслам з'еш
Маю вось дулю —
Ў яго сабака
Злюшчы такі».
«Слабо?»
«Слабо!»
І хлопцы чакаюць,
А я да плота
Паўзу крадком...
Навошта дулі мне тыя,
Не знаю?
Свой дома
Сад стары
Над раўком...

*

Стаю на двары
І зайсці ў хаціну
Баюся:
Усыплюць мне за дваіх.
Знаёмы Барсік —
Сабака Вусцінаў —
Ашмоцце зрабіў
Са штаноў маіх.
Стаю.
За пазухай грэюцца дулі.
Смяльчак,
                    адчайная галава,

Дрыжу перад гневам
Роднай матулі.
«Навошта,
Навошта я дулі ірваў?..»

*

Горкія дулі...
Салодкім сокам
Застаўся ўспамін
На ўсе гады.
І сёння
У Забалацце
Прыеду здалёку,
Як некалі,
Дражняць чужыя сады.

IV

Мой першы званок —
Верасень сёмы.
Апошні званок —
Семнаццаты май...
Ніколі не быў
Я такі вясёлы:
Насустрач далям
Смялей ступай.
Прысядзь,
Як вядзецца,
Перад дарогай
І...
Дзень добры, скрыжалі
Чаканых дарог!

...Тады не думаў,
Як гэта многа:

Хата пад клёнам,
За пуняй стог.
Сэрца ў палон
Шчэ тугá не брала,
Жыцця валун
Не цягнуў на гарбе...

Маці пакуе
У сумку сала.
«Навошта,
мама?
Хопіць табе!..»

*

Нясу усмешку
Па вуліцах потных я.
Дзятва басаногая
Шчабеча з дрэў.
Жанчыны дарогу
З вёдрамі поўнымі
Мне пераходзяць,
Каб шчасце сустрэў,
Хацелася крыкнуць
Мне ім звар'яцела:
«Сваімі рукамі
Я шчасце вазьму!»
Ды слова
У горле застыла знямела,
Сілы не стала слову майму.
І толькі,
Як зведаў крыху
З гадамі,
Колькі каштуе
Кропля дабра,
Тады зразумеў я,

Што піў глыткамі
Дабро тваё,
Вёска,
Нагбом
з вядра.

*

Забалацце,
Зноў я стаю
Ля твайго парога.
Хата пад клёнам,
За пуняй стог.
Забалацце...
Божа мой,
Як гэта многа!
Калі ёсць вярнуцца куды
З дарог...

ЗМЕСТ

Александр Михайлович Емельянов
УТРО ПОЛНИТСЯ ЖИЗНЬЮ
На белорусском языке

Рэдактар Р. І. Барадулін. Мастак Н. У. Сустава. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Я. Ф. Харко.

ИБ № 172

АТ 10566. Здадзена ў набор 2/XII 1976 г. Падп. да друку 9/II 1977 г. Тыраж 2000 экз. Фармат $70 \times 90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,63. Ул.-выд. арк. 2,2. Зак. 3781. Цана 23 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Свярдлова, 4.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.